Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Субота, 21 чэрвеня 1919 г. № 25.

## „ДО КОРОНЫ.“

Па ўсёй Беларусі, занятай польскімі войскамі, ідзе цяпер, як мы ўжо адзначалі, самая энэргічная агітацыя за далучэньне да Польшчы.

Агітацыя гэта вядзецца найбольш ксяндзамі-палянізатарамі, а таксама панамі і панямі з маёнткаў.

Больш усяго працуюць ксяндзы-палянізатары, каторыя не саромяюцца з касьцельнае амбоны рабіць агітацыйную палітычную трыбуну, з каторай, то грозьбай, то просьбай, стараюцца разагітаваць беларусаў-каталікоў, каб яны падпісваліся пад такой паперай:

«*Дастойны Сойме Польскі, каторы правіць у Варшаве! Прыносім гарачую просьбу, каб як найхутчэй з нашае зямлі назначаны былі выбары ў Сойм: хочам разам з вамі, браты, быць і разам сваім краям кіраваць...*

*Мы, абывацелі вёскі (гэтакай-то), павету (такога-то) . . . . . . (подпісы)*.

Простыя людзі з вёсак, каторым ужо на працягу дзесяткаў год палянізатары ўнушалі, што яны не беларусы, а палякі, ў цяперашні мамэнт найбольш паддаюцца гэтай агітацыі. Ім здаецца, што Польшча ўжо назаўсёды запанавала на Беларусі і што самі беларусы і цяпер і ніколі ня будуць магчы зрабіцца незалежнымі ні ад Расеі ні ад Польшчы.

Мы не пpaрокі... і ня хочам варажыць, што будзе з намі, а таксама — з Польшчай, Расеяй і г. д., але-ж мы ведаем, што шкодная і варожая нам эндэцкая праца аб далучэньні да Польшчы «усходніх зямель», г. ё., Беларусі, ужо з трэскам правалілася адзін раз, калі частка н.-д. дэпутатаў Польскага Сойма ў Варшаве ўнесла ў Сойм знамянітую прапазыцыю „*аб далучэньні*“.

З якім пазорам, з якім сорамам на ўвесь сьвет прышлося потым гэтым самым панам і ксяндзам-палянізатарам, засядаючым у Польскім Сойме, здымаць з павесткі дня сваю пазорную прапазыцыю. Агнём гарэлі іх тлустыя шчокі ад сораму, што іх зладзейства, каторае яны гвалтам хацелі зрабіць над нашай бацькаўшчынай, адкрывалася і было спыняна дзяржавамі Антанты.

Тады яны пайшлі на папятную... і зьнялі пытаньне „аб далучэньні“.

Есьць добрыя пагудкі: «ня кіям, дык палкай», і яшчэ: «гарбатага і магіла ня выпрастуе»

Так і з пытаньнем «аб далучэньні».

Ня глезьячы, што за прапазіцыю «аб далучэньні» польская «эндэцыя» атрымала ўжо раз ад Антанты «па мордзе», як груба выражаюцца простыя людзі, тутэйшыя палянізатары не перастаюць працаваць ў тым самым сваім кірунку, думаючы *хоць гвалтам* «далучыць» часткі Беларусі да Польшчы.

Што нам на гэта адказаць?

Пакуль што пачакаем, будзем цярплівымі! Мы ведаем, што «гарбатага і магіла ня выпрастуе».

Няхай дзяржавы Антанты яшчэ раз ўчуюць аб новай авантуры той самай польскай эндэцыі, каторай так сорамна было ўжо адзін раз па пытаньню «аб далучэньні».

Тады было — „раз“, цяпер будзе — „два“.

Ня кіям, ня палкай, ня салам, ня хлебам... *ні чым* «до короны» вам нас *не далучыць*. Лепш кіньце сваю чорную працу, каб не дачакацца яшчэ горшага сораму, у якім, вы, паны — польская эндэцыя, ужо раз былі.

А, вы беларусы-каталікі, памятайце, хто вы такія, і ня слухайце здраднікаў і прадаўцаў нашай бацькаўшчыны, каторыя вас прадаюць у Польшчу.

Лук—аш.

### Польскага консула варочаюць назад.

БЭРЛІН, 17 чэрвеня. (W. B. K.). З Бэрліну даносяць, што консул польскі ў Бэрліне атрымаў ад ген. Дюпона асабістае далучэньне, каб ён да 16 чэрвеня пакінуў Бэрлін. Газэты нямецкія відзяць у гэтым магчымасьць у блізкім часе наступленьня Польшчы на немцаў.

### Ангельская камісія у Коўне.

КОЎНА, 13 чэрвеня. (Z. B. I.). З урадовых сфэр даносяць, што Урад Літоўскі апрацаваў права на выдачу салдатам літоўскай арміі зямлі; на гэта прызначаецца зямля дваровая вялікіх і сярэдніх.

### Арышт лідэра чэскіх камуністаў.

ВЕНА, 17 чэрвеня, (Б. В. Д.). «N. Fr. Presse» паведамляе з Прагі, што ўчора арыштаваны лідэр чэскіх камуністаў Мун.

### Атакі венгерскіх камуністау

ВЕНА, 17 чэрвеня. (П. А. Т.). Як відаць з вайсковых абвестак венгерскіх камуністаў, атакі чэскіх войск на паўночным фронце ізноў пачаліся.

### Замірэньне паміж украінцамі і палякамі.

КРАКАЎ, 17 чэрвеня. (Б. В. Д.) «Goniec Krakowski» ў экстраным выпуску піша, што сяньня зроблена замірэньне паміж украінцамі і палякамі. Тарнапoль пераходзіць да палякоў, места Чарнікоў, Бучач і Гусяцін будуць пад украінскай акупацыяй.

### Просьба амурскіх сялян да Антанты.

ПАРЫЖ, 17 чэрвеня. (П. А. Т.). З Омска паведамляюць: Сяляне Амурскага вокруга зьвярнуліся да начальнікаў саюзных місый ува Уладзівастоку з гарачай просьбай аб інтэрвенцыі, каб спыніць грамадзкую вайну і выратаваць жыхароў. Дэлегацыя ўручыла гэту адозву прадстаўнікам Злучаных Штатаў; да просьбы былі прыкладзены дакумэнты, падцьвярджаючыя зьверства бальшавікоў у Амурскім вокрузе.

### Наступленьне Колчака.

Парыжскі карэспандэнт „Свободнаго Слова“ паведамляе, што з Лондана атрыманы весткі, што Колчак паслаў з рэзэрваў значныя сілы ў бок Бугульмы і Бугуруслана і пачаў ізноў наступленьне, каб заняць Самару, Саратаў і Цары-

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

### Аб міру.

ВЕНА, 17 чэрвеня (П. А. Т.) Венскае Карэспандэнцкае Бюро даносіць з Вэрсалю: „Адказ Коаліцыі кажа: варункі міру ёсьць справядлівыя; у заходніх граніцах будзе галасаваньне жыхароў там, дзе могуць быць якія небудзь спрэчкі. *Гданск будзе вольным местам*, адлучаным ад Нямеччыны, каб даць палякам выхад да мора. Ці будзе Сілезія ў нямецкіх ці ў польскіх руках, пакажа галасаваньне жыхароў“.

### Закрыцьце польскай граніцы.

МАРАУСКА-АСТРАВА, 17 чэрвеня. (П. А. Т.). Чэха-Славацкае Бюро даносіць з Бэрліну: Галоўнае нямецкае камандаваньне ў Сілезіі, зьнёсшыся з Берлінам, закрыла польскую граніцу.

цын. Апошні пункт мае вялізнае значэньне для Колчака, бо там можна злучыцца з паўдзённым фронтам. Водле думак англійскіх вайсковых колаў, гэтае новае наступленьне мае усе шанцы на пасьпех.

## Беларусь.

НОВАЯ ВЯЛЕЙКА. 19 чэрвеня 1919 года. Места нашае, да вайны багатае і многалюднае, сталася за 5 гадоў да непазнаньня убогім. Насяленьне Вілейкі складаюць фабрычныя работнікі. Якая будучыня гэтых тысяч работніцкіх душ, бяз спосабаў да жыцьця, мы наперад ня ведаемо. Ведаемо толькі, што палажэньне з кожным днём пагаршаецца. З чатырох цэнтраў працы (фабрык), пераводзячы дух, істнуе толькі адзін. Рэшта стаяць бязчынна. На днях кончылася эвакуіраваньне зялезна-дарожнага дэпо ў Ліду, чым вырваўся апошні кусок хлеба з рук сотняў работніцкіх семьяў. Праз гэта галодная сьмерць у Вялейцы зусім не навіна.

У палітычным і грамадзкім жыцьці Н.-Вялейка паддаецца цалком уплывам часу. Як толькі прыйшлі немцы, грамадзяне парупіліся аб школах. У вёсцы Ялоўка была адчынена пачатковая беларуская школа. Не падабалася гэта Вялейскім «галовам», і яны свайго дапялі. Школа на час была зачынена.

Прад прыходам бальшавікоў, работнікі былі арганізаваўшы свае работніцкае прадстаўніцтва-Совдэп. Пры бальшавіках былі перавыбары, і ўласьць была перададзена Совдэпу. Характэрна, што гэтыя-ж самыя члены Совдэпа прад бальшавікамі ухвалялі камуну, а пры бальшавіках апавесьціліся блізка ўсе за безпартыйных... З адходам бальшавікоў большасьць камісараў таксама уцякла.

Пераварoты палітычныя данімалі нас кожны раз «да жывога». Дні з 27 красавіка па 3 мая, дні паўзноўнага бальшавіцкага наступленьня на Вільню, будзе памятаць Вілейка на доўгія часы. У ваколіцах 6 дзён без пярэрвы трываў бой. Мы былі ў крыжовым агні артылерыйскім, і пацярпелі ня мала.

З уцечкай камісарскага ураду матэрыяльнае палажэньне вялейчан значна палепшылася.

Пераварот гэты збавіў не аднаго ад нямінуючай галоднай сьмерці. Да аправізацыі места выбрана асобная камісія. З пачатку была адчынена народная кухня для ўсіх бедных. Калі потым, аднак, запас прадуктаў меньшаў, а транспарт новых ані маячыў, грамадзянства рашыла ратаваць хоць дзяцей. Паўсталі тады дзяцячыя прытулкі ў Вялейцы і ваколіцах. У прытулках я бдаюцца порцыі два разы дзенна. Гэтым удалося падтрымаць істнаваньне тысяч дзяцячых душ. Палажэньне старых і нядольных да працы, пасьля закрыцьця народнай кухні, да гэтай пары яшчэ мала, аднак палепшана. Есьць чуткі, якобы палажэньне апошніх у найбліжэйшых днях, удасцца хоць трохі палепшыць.

— У скорым часе па адходзе бальшавікоў, узновіла істнаваньне дарэвалюцыйная мястовая управа. Дагэтуль мы бачылі там розныя перавыбары. На жаль было гэта толька пераліваньне з пустога ...кнае. Нашускны дух «чорнай сотні» патрапіў атуманіць і балей прыдатныя галовы.

Выбарныя, сяляне і работнікі, што шчыра жадаюць паправіць свой лёс, атрымліваюць на гэта ад прадстаўнікаў новых мясцовых ўласьцей, адну і тую рэцэпту: «Запісавацца да Польшчы». Другіх мэдыкамэнтаў на нашае гора няма. На шчасьце, аднак, правадыры гэтыя губляюць грунт. Часьцей і гусьцей выходзяць на яў чорныя староны іх тактыкі і пападаюць пад востраю грамадзкую цэнзуру.

— Нядаўна тут адбыўся «Польска-Каталіцкі» мітынг і заложан гурток «Хрысьціянскай Дэмакратыі». На што гэтыя прыдомкі, як «Каталіцкі»—мітынг і «Хрысьціанская» дэмакратыя—рэч ясная: паставіць пятлю на несьвядомасьць народных мас і з гэтага скарыстаць. Рэзультат гэтых махінацый стаўся фатальным для самых арганізатараў, бо... рэзалюцыю «да Сэйму», падпісалі толькі самыя арганізаторы, а дэмакратыя дагэтуль лічыць усяго асоб з паўкапы.

К.

### Выбары у Польскі Сойм у Беластоцкім, Сакольскім і Бельскім паветах.

Нядаўна падлічылі галасы ў Беластоку. Мелі права голасу 39.024 а галасавалі толькі 17.119.

З шасьцёх сьпісаў найвялікшы лік галасоў—5464 сабраў хрысьціянска-нарадовы; два сьпісы жыдоўскіх разам дасталі 9.887 галасоў; работніцкі сьпіс—1569 галасоў.

Падлічка галасоў у паветах Беластоцкім і Сакольскім яшчэ ня скончана. Бадай што з 7 мандатаў пяць дастанецьз сьпіс народаўцаў, а два жыдоўскі.

У Бельскім павеце ішло 7 сьпісаў. Верх меў нарадовы. Абраны ў Сойм: ксёндз Станіслаў Мацеевіч, б. дэпутат Гасударсьцв. Думы ад Вільні, д-р Тадэуш Дымоўскі—дырэктар тав. «Разьвіцьце», Міхал Арцішэўскі, сельскі вучыцель, і Казімір Жаро, паншляхціц.

(Віл. Кур.).

*Прыкметка рэдакцыі.* Як ведама, беларусы лічаць Беластоцкі, Бельскі і Сакольскі паветы сваімі; з гэтай прычыны, да тэй пары, пакуль ня будуць праведзены граніцы паміж Польшчай і Беларусьсю, ўсялякія выбары на спорнай тэрыторыі ня могуць лічыцца праўдзівымі.

## У ВІЛЬНІ.

### Вайсковыя беларусы.

Краёваю ўладаю дазволена выдаць маламожным ваякам-беларусам 40 афіцэрскіх пайкоў.

### Дамініканская турма.

З прычыны перапаўненьня арыштантамі, турма на Дамініканскай вул. знаходзіцца ў вельмі благіх санітарных варунках,—там пануе пошасьць плямістага тыфусу.

Каб спыніць заразу, трэба зачыніць гэтую турму і ўва ўсім памяшчэньні зрабіць акуратную дэзынфэкцыю.

Дзеля гэтага Магістрат зьвярнуўся да Камісара места, каб усіх арыштантаў з Дамініканскай турмы перавялі ў іншыя.

### Бальніца Савіч.

Віленскі Унівэрсытэт зрабіў прапазыцыю, каб цяперашняе памяшчэньне бальніцы Савіч было аддадзена для яго ўжытку, а бальніцу каб перанесьлі ў памяшчэньне б. Юнкерскага вучылішча.

### Бальніца для дзяцей.

Магістрат м. Вільні, хочучы спыніць пашырэньне хваробы на сухоты сярод мясцовых дзяцей, праэктуець умясьціць дзяцей, хворых на туберкулёз, з ахронак і інтэрнатаў у спэцыяльна для гэтага прыгатаванай дзяцінай бальніцы.

Наладжаньне гэткае бальніцы ўжо пачалося; ужо прыгатаваны інвентар і скомплектаваны персанал. Задзержка ў тым, каб знайсьці патрэбное памяшчэньне.

Мястовы Санітарны Аддзел знайшоў найболыш адпаведным для гэтае мэты урадовы будынак на Антокалі, пры вул. Сестр. Міласэрдзьдзя, у каторым перад вайной была дзяціная бальніца.

Магістрат зьвярнуўся да вайсковае камэндантуры, каб яна аддала распараджэньне аб перадачы гэтага будынку.

### Польская эндэцыя працуе...

Як мы даведаліся з пэўнай крыніцы, 18 чэрвеня ў Вільні адчыніўся зьезд прадстаўнікоў сялянства Віленшчыны.

Гэты зьезд, як і той, што адбыўся нядаўна ў Горадзеншчыні, мае сваёй главную мэтаю—далучэньне Віленшчыны да Польшчы, дзеля чаго яшчэ задоўга перад зьездам па вёсках ішла страшэнная і гвалтоўная эндэцкая палянізатарская агітацыя, аб чым мы паведамляем і ў перадавым артыкулу, дзе прыводзім і тэкст зьвертаньня да Польскага Сойму.

## З УСІХ СТАРОН.

### НЕМЦЫ РЫХТУЮЦЦА.

Карэспандэнт «Chicago Tribune» піша з Бэрліна, што ў сталіцу ідуць ўсё новыя і новыя войскі. Камэндант Бэрліна Лютвіц аглашае адозвы да салдатаў, каб падтрымалі ўрад «у цёмныя дні, якія надыходзяць».

### ПАЗЫЦЫЯ ЯПОНІІ.

ЛІОН, 15-га чэрвеня. (Р. А. Т.). З Масквы паведамляюць: Японія першая з дзяржаў Антанты прызнала ўрад Колчака, але абавязала яго падпісаць канцэсіі ў Сыбіру. Цяпер небясьпека з боку Японіі усё больш выяўляецца. Ідуць весткі з Парыжу, што Японія маркуе ўступіць у хаўрус з Расэяй і Нямеччынай, каб стварыць сілу, якая магла-б мець уплыў, каб быў перагледжан трактат аб міру. Прэзыдэнт Вільсон зрабіў два пасяджэньні, дзе перагляраліся пункты трактату».

**БЕЛАРУСКАЯ РАДА**
памяшчаецца на Востра-Брамскай вул., д. № 9.
Старшыня Рады прымае што дзень, апрача сьвят, ад 1 да 2.
Сэкрэтар прымае у панядзелак, сераду і пятніцу ад 3 да 4.

Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стефанаўская, 23.